# Францішак Берніковіч. Успаміны і запісы (2)

## Зліквідаваць заразу. Пачаткі ваеннае структуры

Беларускія патрыятычныя сілы дакладна ведалі, што дае ваенная структура. Пасля роспуску школьнага батальёна ў Глыбокім сарганізавалася ваенная ўправа. Кіраўніком яе быў Лазараў, былы камандзір батальёна. Лучнікам быў выбраны Янка Бука. Такія ўправы ўзнікалі ў кожнай акрузе. У цэнтры — у Менску — Францішак Кушаль быў назначаны кардынаваць беларускія ваенныя справы.

У сакавіку 1943 г. арганізаваны быў беларускі батальён, які зваўся штурмавым. Пачаткова інструктарамі ў батальёне былі немцы і латышы. Кушаль рашыў пазбыцца чужога элементу і замясціць яго беларускімі кадрамі. Даў сігнал Лазараву, каб сабраў групу падафіцэраў. І ў гэты час прыбывае да нас Янка і кажа: „Цябе бяруць у войска. Заўтра раніцай едзеш у Менск”. На вакзале сустракаю сяброў з Докшыц: Рандарэвіча, Кавалеўскага і яшчэ аднаго, прозвішча якога не помню. З вакзала ў Менску нас кіруюць у штаб Ф. Кушаля. Кушаль сардэчна нас прывітаў. Уручыў нам пасведчанне авансу на падафіцэра і самаходам завезлі нас у казармы каля Сосенскага тракту.

Беларускі батальён меў у сваім складзе дзве роты ў Менску, трэцюю роту ў Вялейцы, чацвёртую — у Баранавічах і пятую — у Глыбокім. Пасля трэцюю роту назвалі штрафной, у якой і я меў шчасце пабываць праз цэлы 1944 год. А гэта таму, што ў яе складзе былі былыя партызаны-радзівонаўцы. У ёй служыў беларус з Невеля — добры кулямётчык Чырвонай Арміі. Нямецкае і беларускае камандаванне найбольш давярала кулямётчыку з Невеля. Ваенная падрыхтоўка батальёна ў складзе першай і другой роты працягвалася тры месяцы, пасля чаго батальён атрымаў ваенную службу. У адзін чэрвеньскі дзень па загадзе была сарганізавана зборка батальёна. Усе жаўнеры на плячах мелі ранцы, а пры пасе была прымацавана вайсковая лапатка. Жаўнерам быў адчытаны загад: пешшу дайсці да таварнага вакзала, а пасля далей цягніком у вызначанае месца. Была ім вёска „х” два кіламетры ад Негарэлага. У гэтай вёсцы пачалася наша ваенная ахоўная служба. Нашым заданнем было арганізаваць ахоўныя патрулі ў вёсцы „х” і ў паблізкіх вёсках. Упершыню мы заўважылі, што ахоўваем спакой жыхароў вёскі, не дазваляем рабаваць насельніцтва польскім і савецкім партызанам.

Зжыліся нашы жаўнеры з жыхарамі вёскі, а перш за ўсё з моладдзю — арганізавалі сумесныя гулянкі на пляцоўцы пры школе. Некаторыя з іх завялі бліжэйшыя кантакты. Аднак спакойнае жыццё жаўнера было перарвана загадам: першую і другую роту скіраваць у кірунку Лепеля.

Удзень 4 ліпеня на дарозе затрымаліся тры самаходы. І рота дастала загад пакавацца і грузіцца звязамі ў самаходы. Толькі мы памясціліся, бачым — імкнуцца яшчэ тры самаходы з жаўнерамі другой роты. Цэлым батальёнам імкнем на Койданава, а далей на Менск. Едучы праз Менск, кожны пытаў сябе, ці едзем у казармы. Але бачым — самаходы павярнулі ў кірунку Барысава. З Барысава паехалі на поўнач, каб пазней звярнуць улева цераз Беразіну. Затрымаліся на пару мінут у Зембіне. І зноў на поўнач. Ужо былі хіба блізка Лепеля, калі перараздзеліся праз лясную палянку, а на ёй — невялічкая вёска і перапалоханыя жыхары пачалі скрывацца. Не знаю, які план мелі немцы для гэтай вёскі, але калі людзі навязалі лучнасць з намі, нашы камандзіры былі спакойныя: „вёсцы нічога дрэннага не станецца”. І так прысутнасць беларускіх жаўнераў дала спакой жыхарам вёскі. А калі гэта ўжо было відаць, кантакт людзей вёскі з намі яшчэ ўзмацніўся.



■ Францішак Берніковіч з вучнямі

Праехаўшы пару дзясяткаў кіламетраў, апынуліся мы ў Лепелі. Якая мэта нашага падарожжа на поўнач — ніхто не ведаў. Не знаю, ці ведалі нашы камандзіры — хіба не. У адзін спякотны ліпеньскі дзень наш батальён праз горад берагам вялікага возера маршыраваў на ўсход, да мястэчка Камень. З Каменя лясной дарогай страхавальным маршам прасоўваліся мы на поўнач. У канцы жаўнеры першага звязу даносяць, што знайшлі станкі кулямётаў „Максім”. Пасля бачым паляну з вёскай на ўзгорку, з якой быў чутны мінамётны агонь — на захад, а з захаду артылерыйскі агонь па вёсцы. Вёска пачала гарэць. У гэты момант з месца, адкуль ішоў артылерыйскі агонь, кранулася калона войск на конях. Гэта быў акружаны батальён нямецкай коннай арміі. На вазах везлі пабітых жаўнераў. Толькі цяпер мы даведаліся, што нашым заданнем было вызваленне немцаў з акружэння. Гэта нам удалося без выстралу, дзякуючы тактыцы „знайсціся знянацку” ў вызначаным месцы — так як рабіў Усяслаў Чарадзей.

## На адпачынак у родную старонку

Пасля паспяховага выканання задач наш батальён пайшоў у адпачынак. Наш першы звяз атрымаў месца размяшчэння ў Глыбокім. Мясціліся мы ў беларускай гімназіі над Кагальным возерам. Нашым заданнем было паказанне насельніцтву Глыбоччыны, што апрача польскай партызанкі АК і савецкай ёсць яшчэ іншая сіла, якая з'яўляецца тут гаспадаром. Пачаліся парадныя маршы па горадзе. Прыглядаліся людзі да нашы бел-чырвона-белыя шчыткі на рукавах мундзіраў. Пасля нейкага часу мелі мы рэйд па Глыбоччыне: Глыбокае, Лужкі, Язна, Дзісна, Празарокі, Пліса, Глыбокае. Рэйд наш закончыўся без страт.

У канцы кастрычніка (мо лістапада?) наш звяз накіроўваюць у другое неспакойнае месца, дзе атаку вялі польскія элементы АК і другія. Тут у Лідзе па-бандыцку быў забіты Ян Пінкевіч, калі з дачкой ішоў пад руку праз горад. Дачка яго Аня працавала ў БНС. Наш звяз, уступаючы ў новы горад, праз камандзіраў Берніковіча і Куца стараўся наладзіць лучнасць з працаўнікамі БНС. І вось у Лідзе, калі мы прыбылі ў горад, першым нашым абавязкам было пазнаёміцца з працаўнікамі БНС. Заходжу я з Куцам у бюро і прадстаўляюся, што ад сённяшняга дня з'яўляемся гаспадарамі горада.

— Дзякуем, даражэнькія, што прыбылі да нас, а так бы палякі нас вымарадавалі, — сказала прыгожая супрацоўніца БНС — Аня.

Ад гэтага часу яна з сімпатыяй адносілася да мяне і майго сябра Куца.

## Польская правакацыя ў снежні 1943 г.

Польскім элементам цяжка было пагадзіцца, што ў Лідзе знаходзіцца беларускі звяз, які быў гонарам усіх беларусаў. Калі адбываўся рэйд па горадзе ў поўным узбраенні, мясцовыя дзяўчаты абкідвалі жаўнераў кветкамі. Але адначасова чутны былі злосныя пагрукі польскіх элементаў у горадзе. Жаданнем іх было як-небудзь пазбыцца з горада звязу — гонару беларусаў. І вось у адну вёску блізу Ліды прыбыла рота немцаў. Польскаму кіраўніцтву прыйшла думка, каб гэтую падзею выкарыстаць у сваіх інтарэсах. І так па загадзе кіраўніцтва АК высылаецца чалавек з дакладам, што ў вёсцы „х” знаходзіцца нейкая партызанка. Хто будзе ачышчаць вёску? Паводле іх, беларускае войска. І будзе тады нагода разбіць беларускі звяз — гонар беларусаў. Такі даклад трапляе ў СД Ліды. Камандзір СД Гільдэнбрандт скіроўвае першы звяз ачысціць вёску. Гэтым самым даказаў ён, што яго ваенныя веды былі слабымі. У наступленні павінна браць удзел тры разы больш войска як у абароне (3:1, а было 1:3). Праўда, падмацаваў ён звяз дружынай Арганізацыі Тодта.

У снежні перад Калядамі памясцілі нас у самаход і павезлі незнаёмай вуліцай Ліды. Апынуліся мы ў ваколіцах Ліды. Пад'ехалі к ляску, пры якім знаходзілася гаспадарка беларускага селяніна. У лесе мела быць паляна, дзе знаходзілася вёска — нібы апанаваная партызанамі. Калі камандзір СД спытаў селяніна, ці ў той час былі на дварэ: „У вёсцы ёсць партызаны?”, гаспадар адказаў па-беларуску: „У вёсцы немцы”. Камандзіра агарнула злосць, калі пачуў перавод слоў селяніна. Дастаў ён аўтаматам па галаве. І другі раз пытаецца: „У вёсцы партызаны?” — „Не, немцы” — чуецца адказ. Згневала гэта Мялешку. Па бітве была нагода прыпомніць гэтыя словы. Зрабіў гэта не хто іншы, толькі камандзір роты, якая знаходзілася ў вёсцы. Ён быў ранены ў руку.

## Бітва

Звяз наш размясціўся на ўскраіне паляны, супраць вёскі. І так стоячы мы не ведалі, хто наш вораг. Па загадзе лейтэнанта Мялешкі: «Наперад! Заняць вёску!» другая дружына заатакавала вёску злева, а трэцяя дружына з дружынай Арганізацыі Тодта — справа. Калі немцы ўбачылі атакуючых вёску моцным кулямётным агнём, адразу спынілі атакуючых. Толькі жаўнеру Анісеровічу ўдалося падысці блізка вёскі. І ў той момант ён быў ранены ў калена. Ад моцнага болю пачаў крычаць. Мялешка, бачачы гэта, даў загад: «Берніковіч! Ка мне!». І так мы з Мялешкам апынуліся каля раненага Анісеровіча. Немцы ўбачыўшы нас — групку — яшчэ больш жорсткім агнём пачалі біць па нас. Анісеровіч дастаў кулю ў галаву і так зваліўся нежывы. Мялешка сказаў мне вяртацца ў лес, але было гэта наўпрост агню. Я падказаў яму адысці больш улева — на пожню, дзе памежак нас будзе засланяць. Для Мялешкі было гэта запозна — быў хіба ранены ў бруха або грудзі. Я на памежку знайшоў даволі грубую бярозу і ёю засланіў сабе галаву. Страляў далей па вёсцы і ў гэты момант куля, прайшоўшы праз бярозу, разбіла мне карабін. У той час Мялешка бачачы, што я застаўся без карабіна, кінуў мне свой аўтамат, а сам — бачу — канае. У такой сітуацыі я рашыў паўзком дабрацца да стадолы. Калі апынуўся дзесь 20 метраў ад яе, пачуў страшны гук у паветры. Гэта куля ўдарыла мне па крыжы, але гэтая рана не пазбавіла мяне хады. Устаў і вольна накіраваўся да стадолы. Чуў я як свісталі кулі, але на шчасце не па маім целе, а па плашчы і кажушку. Я хутка знізіўся за стадолай і ў той час падскочыў наш санітар і пад руку завёў мяне да самахода. На самаходзе было ўжо двух жаўнераў — адзін з маёй дружыны: Бурыновіч Янка, а другі — з Тодту. У гэты час я страціў памяць і не помню, калі апынуўся ў нямецкім шпіталі, дзе мне зрабілі, што трэба. Пашчасціла мне, што куля зрабіла толькі равок у пазваночніку. На другі дзень у рану змясцілі гумовую трубку, каб сцякаў праз яе гной і тады я адчуў сябе вельмі крытычна. Немцы, якія ляжалі каля мяне, падумалі, што мне прыходзіць канчына. І так прайшлі Каляды і Новы год. Калі прыйшоў я да памяці, убачыў на сваім століку шмат бутэлек. Былі ў іх шампанскае і каньяк. Даведаўся, што перад Новым годам прынеслі іх дзяўчаты з БНСу.

Калі адведаў мяне сябра Куц, аддаў я яму ўсе бутэлькі з просьбаю сарганізаваць нашым жаўнерам вечар з дзяўчатамі. Хутка я пачаў папраўляцца. Мог ужо хадзіць і такім чынам адведаць свайго жаўнера — Бурыновіча. З ім ляжаў жаўнер, з якім я пасля падружыў. Навучыўся ад яго дзвюх беларускіх песень: «Вярба» і «А я бедны, а я голы, я прыехаў з Мэйшаголы». Калі здароўе маё папраўлялася так, што мог свабодна хадзіць, адведаў Вільню, а з сябрам, які вучыў мяне песень, адведаў яго дом у Мэйшаголе. У лютым 1944 г. звольнілі мяне са шпіталя, а камандзір у Лідзе даў мне аздараўленчы водпуск, які я ледзь выкарыстаў.

(працяг будзе)

Францішак БЕРНІКОВІЧ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

Усе нашы пявучыя дашкольнікі, вучні і гімназісты робяць усё, каб прыехаць на цэнтральны агляд конкурсу «Беларуская песня». Сёлетні фінал адбыўся 12 мая г.г. у Бельску-Падляшскім ды як заўсёды прыцягнуў шматлікіх выканаўцаў. Камісія ў саставе Марта Врублеўская, Аліна Нігярэвіч і Мацей Муха назначылі лаўрэатаў.




Оля Яроцкая

# Найлеш ацэненыя спевакі!

**У катэгорыі класаў 0-III:**
**САЛІСТЫ:**

I месцы: **Марта Васькоўская** і **Кася Васькоўская** з Гайнаўскага дома культуры.

II месца: **Оля Сцепанюк** з Садка № 14 у Беластоку, **Ніна Нічыпарук** з Праваслаўнага садка ў Бельску-Падляшскім і **Аляксандра Волчук** з ГДК.

III месца: **Юліта Алексяюк** з Садка № 14 у Беластоку.

Вылучэнне атрымала **Каліса Пятроўская** з ПШ № 4 у Беластоку.

**ДУЭТЫ, ТЭРЦЭТЫ, КВАРТЭТЫ:**

I месца: тэрцэт **Юлія Алексяюк, Зося Галубоўская, Оля Сцепанюк** з Садка № 14 у Беластоку.

II месца: тэрцэт **Ганна Волчык, Ізабэля Пятрочук, Марта Галёнка** з Садка № 2 у Гайнаўцы.

**У катэгорыі класаў IV-VI:**
**САЛІСТЫ:**

Гран-пры: **Бартэк Келса** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім.

I месца: **Зося Філіпюк** з ГДК.

II месца: **Адрыян Данілюк** з ДК у Гарадку, **Наталля Пятрочук** з ГДК.

**ДУЭТЫ, ТЭРЦЭТЫ, КВАРТЭТЫ:** **Аня Салавянюк, Марына Місяюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

**У катэгорыі класаў I-III гімназіі:**
**САЛІСТЫ:**

I месца: **Марыя Савіцкая, Іза Карчэўская** з ГДК.

II месцы: **Наталля Алексяюк** з ДК у Гарадку, **Кася Дружба** з ГДК.

III месца: **Анеля Хмур** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім.

Вылучэнні атрымалі **Вераніка Федарук** з БДК і **Мартына Белавежац** з Чыжоў.

**ДУЭТЫ, ТЭРЦЭТЫ, КВАРТЭТЫ:**

I месца: **Лена Пасечнік** і **Карына Астроўская** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім.

II месца: **Оля Яроцкая, Адрыян Данілюк, Цэзар Данілюк** з ДК у Гарадку.

III месца: **Уля Алексяюк, Анеля Хмур** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім.

Вылучэнне атрымаў **Дуэт «Антракт»** з БДК.

**Вакальныя і вакальна-інструментальныя калектывы:**

I месца: **«Вясёлка»** з Садка № 14 у Беластоку, **«Лямонкі»** і **«Малы ГДК»** з ГДК.

II месца: **«Лянок»** з Праваслаўнага садка ў Бельску-Падляшскім, **«Капрыс»** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Гурт з Чыжоў**.

III месца: **«Ручнічок»** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім і **«Вясёлыя ноткі»** з Садка № 14 у Беластоку, **«Жэўжыкі»** і **«Вяночак»** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім.

**Хары:**

II месца: **Хор БДК.**

III месца: **Хор класаў I-III** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія і **«Баламуткі»** з ПШ № 4 у Беластоку.

Конкурс «Беларуская песня» арганізавала Таварыства беларускай культуры.

**ЗОРКА**

*(фота racyja.com)*



Дзеткі з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія

**Адрыян ДАНІЛЮК,**
КШ у Міхалове

## Эга

Крыху таго,
Крыху гэтага.
Выходзіць цалкам,
цалкам эга.
Вельмі мілае,
Можна сказаць,
І культуры трэба знаць.

**Габрыеля ГРЫКА**
Азяблы, КШ у Міхалове

## Радасць

Калі апошні званок
адазвецца?
Калі сёння ў хату ўвайду?
Калі да мамы сваёй прыпаду?
Калі раскажу пра ўсенькі
дзень свой?
Тады радасна мне...
Тады цёпла на душы...
Тады ўсё яснае
як маміны вочы...

# УВАГА КОНКУРС! № 21-17

У стаўку купаўся,
Ды сухім астаўся.
І пайшоў, гарласты,
у чырвоных ластах.
Г....

(У. Мацвеенка)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 4 чэрвеня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 17-17: мурашнік. Узнагароды, наклейкі, выйгралі Мацей Путко з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Мартына Цярэшка з Бабік, Томэк Ваўжэнюк з Нарвы, Аляксандра Бакун з КШ № 1 у Гайнаўцы, Наталля Маркевіч з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

**Тамаш ХАРКЕВІЧ**
Новая Лука, ПШ у Нараўцы

## Маці

Калі я быў маленькі,
маці мне спявала
і маю калыску
нагой калыхала.

Калі падрос ужо,
спяваць мне не трэба,
а хачу паесці
смачнага абеду.

Я ўжо падрос,
хачу сваёй маці,
колькі сілы маю,
цяпер дапамагаць.

Прынясу я вугалю,
памыю падлогі,
каб маёй матулі
не балелі ногі.

## Вершы Віктара Шведа



### Удалая абарона

Калі божую кароўку
Атакуе нехта знОўку,
Яна выдзяляе вадкасць
Што і нюхаць гэта гадка.

А ўсе ворагі заўсёды
Уцякаюць ад смуроду
І кароўка дарагая
Будзе надалей жывая.

### Муха на столі

Чаму муха нікалі
Не спадае са столі?
Яна ходзіць над намі
Дагары нагамі.

Ліпкіх валаскоў многа
Маюць мушыныя ногі
І яны не дазволяць
Каб упала са столі.

# Рыбалы не здаюцца!



Ні адзін беларускі конкурс ці агляд не можа абысціся без іх. Яны дэкламуюць вершы, спяваюць песні, выступаюць са спектаклямі на сцэне. Той, хто дакладней прыглядзіцца гэтым дзецям, убачыць паслядоўнасць. Усе яны дарастаюць з роднай мовай на сцэне. І, нягледзячы на перашкоды, яны не здаюцца!

Ці ведаеце пра каго мова?

Мова, вядома, пра дзяцей з Рыбалаў. І пра іх цудоўную паню Лідку Мартынюк, апякунку, інструктаркуі папулярызатаркутворчасці на роднай, беларускай мове.

Не ўсе ведаюць пра адну складанасць. Дзеці з Рыбалаў не вывучаюць беларускай мовы ў школе. Звычайна, такія дзеці не маюць кантакту з літаратурнай мовай. Але ў Рыбалах знайшлі выхад. Усе свае веды на беларускія тэмы дзеці здабываюць у вясковым клубе, пад крыламі пані Лідкі і запрошаных ёю гасцей-інструктараў. Яны вывучаюць на памяць беларускія вершы і песні, апранаюцца ў народныя вышыванкі, танчаць і гуляюць у тэатр. І гэта не толькі з нагоды конкурсаў. Яны ўдзельнічаюць у вясковых мерапрыемствах, калядуюць, адзначаюць дажынкі. Некаторыя з іх, як Магдалена Андраюк, прыгожа размаўляюць па-беларуску. Гэта ўсё паказвае, што пані Лідка Мартынюк не толькі інструктар. Яна яшчэ класная настаўніца, якая ўмее прывіць любоў да роднай мовы.

У рыбалаўскім гуртку жыве прыгожы дух сяброўства, таму ў беларускіх конкурсах і святах выступаюць дзеці іншых нацыянальнасцей.

**(гак)**
**фота Ганны Кандрацюк**


фота Ганны Кандрацюк

**Моладзь з Брэста ў Ніве**

## ПЯРУН
### (з беларускай міфалогіі)

**Пярун** — паводле ўяўленняў беларусаў — велічны, статны, высокага росту з чорнымі валасамі і доўгай залатой барадою. Седзячы на вогненнай калясніцы, ён раз'язджае па небе, узброены лукам і стрэламі. Яго грымотны лук — каменны молат. Яго стрэлы — маланкі. Адным ударам свайго каменнага молата ён разбівае хмары. Нячысцікі бягуць на зямлю, але і тут іх даганяюць стрэлы Перуна. Нячысцікі любяць хавацца пад дрэвам, таму небяспечна станавіцца пад дрэвы ў час буры, бо тады пярун замест нячысцікаў можа забіць чалавека. Пры громе і маланках нельга басанож бегчы па камянях.

## Польска-беларуская крыжаванка № 21-17

Szał, Mina, Czoło, Nóż, Park, Krzak, Wieloryb, Miraż, Słońce, Hasan, Szpak, Mig, Pawica, As, Prąd, Okno, Żak, Nizina, Szpinak, Parasol, Jar, Ocean, Kawa, Nietoperz, Wzrok

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 17-17:**

Край, дах, луста, там, Об, бойка, яйка, ало, абшар. Каравай, бяда, той, лайк, думка, Ас, ар, хто, абібок.

Узнагароды, аўтаручкі і паштоўкі-дапаможнікі па вывучэнні беларускай гісторыі, выйгралі **Магдалена Якубюк, Юля Садоўская** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Вольга Мішчук, Марыюш Красько** з Арэшкава, **Аляксандра Паўлючук, Адрыян Максімюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Габрыся Госцік** з Міхалова, **Габрыеля Кіячко** з Шудзялава, **Караліна Валентыновіч** з Бабік, **Зося Варанецкая** з КШ № 3 у Гайнаўцы. Віншуем!

# Не мая

*Настала дажджлівая восень,
Кароткімі сталі сшарэлыя дні.
А ты мая, міла, прыгожа,
З другім адышла назаўжды.*

*Ты ўжо не мая, не мая, не мая!
І ад думкі бялее галоўка мая!
Вельмі сэрца баліць, мне цябе не забыць.
Не мая ты ўжо, не мая!*

*Цягнецца па палях бела павуціна
І туман за туманам сцелецца вакол.
Гай дажджлівы шуміць,
душа бедна баліць,
Калі нашу любоў пакідаеш.*

*Ты пайшла з другім назаўжды.
Асталіся ля хаты сляды.
Туман белы вакол.
Мы чужыя з табой.
Не мая ты ўжо, не мая.*

*Ты ўжо не мая, не мая, не мая.
І ад думкі бялее галоўка мая...*

# Вясна

*Пачаў у гаю салавейка
весела спяваць.
Стала шэра зязюленька
яму памагаць.
Ой, спявалі й кукавалі
яны ўвесь вечар,
аж выйшаў ім месяц
на мілу сустрэчу.
Засвяцілі зоркі:
хочуць памагаць —
каб прыгожа было ў гаю,
сталі моцна зззяць.
Месяц крыху ўжо стаміўся
ды за хмару захіліўся
і пачаў чакаць,
можа ў гаю салавей
дасць яму паспаць?
А той усё далей
не спыніў спяваць,
усю ночку да рання
не кінуў свістаць.*

# Сенакосы

*Там у полі пры дарозе
сядзіць хлопец на пакосе.
Сядзіць хлопец і думае,
што харошу дзеўку мае.*

*А дзяўчына маладая,
як ідзе, усё маргае,
на пакосы паглядае
і да хлопца прамаўляе:*

*«Ой ты, мілы мой сяброчак,
правядзі мяне кусочак,
пацалуй ты хоць разочак».*

*Хлопец траву косіць,
дзеўку абнімае.
А як месяц зыдзе,
іншу абнімае!*

*Рана хлопец косіць
і дзяўчыну просіць:
«Дзяўчына, кахана,
прыйдзі заўтра зрання».*

*Дзеўка прыйшла зрання,
пад дубочкам стала.
Стала і чакала,
слёзкі ўціраяла.
«Прыйдзі, прыйдзі, мілы,
яшчэ прыйдзі зноў...
Мы паразмаўляем
пра нашу любоў...»*

*Хлопец не прыходзіць.
Хлопец сена возіць
і другу кахану
за сабою водзіць.*



***Валянціна МЯДЗВЕДЗЬ***
*Беласток*

# Бярозы

*Застагналі вакол белыя бярозы,
што ад ветру ўсе паламаліся яны.
Апусцілі галіны як зялёныя косы,
толькі плакаць слязамі яны не маглі.
Зашумелі над імі
клён і хваіны —
усе плакалі над нядоляй бяроз.
Зашумелі лугі і зялёныя нівы,
шчодра скінулі ім срэбра рос.
Задумаліся разам і сястрычкі рабіны
над болем кучаравых бяроз,
не шумеўшых ніколі ўжо з імі.*



***Вера РАДЗІВАНЮК***
*Міхнаўка*




# Ліпа

*Расцвітаюць ліпы
Пахучымі кветкамі.
Пах кругом разносіцца
Вечарамі летнімі.
Пасядзім на лавачцы,
Дзе ліпа цвіце,
Паслухаем як пчолы
Вядуць свой канцэрт.
Лётаюць над ліпай,
Звіняць цэлы дзень,
А калі змяркае,
Ляцяць адпачываць,
Калі ўзыдзе сонейка,
З ліпаў нектар браць.
Калі дзень пагодны,
Працуюць увесь час
Лётаюць па кветках,
Цешаць усіх нас.*

# Зязюлька

*Чаму ты, зязюлька,
Ужо больш не куеш?
Куды ты падзелася,
Адляцела дзе?
Штодзень кукавала
У садку на вярбе.
А цяпер не чуці,
Ужо больш не куе.
Хутка будзе восень,
Сумная пара
І нашы птушкі
Будуць адлятаць.
Зямля апусцее.
Без спеву птушак
І нам будзе сумна
Без іх галасоў.
Усю зіму доўгую
Будзем іх чакаць,
Калі зноў вясною
Да нас прыляцяць.*

# Буслы

*Буслы маладыя
Вучацца лятаць.
Хутка трэба будзе
Гнёзды пакідаць.
Кружыцца над гнёздамі.
Першы іх палёт.
А пасля над вёскаю,
Блізенька да гнёзд.
Палётам кіруюць
Старыя буслы,
Так каб не здарылася
З дзеткамі бяды.
А калі навучацца
Добра ўжо лятаць,
Збяруцца ад нас
У вырай адлятаць.*

# Дзяцел

*За аконцам сонца
Свеціць весяло,
Але ж так не грэе,
Халоднае яно.
Птушкі не спяваюць,
Адляцелі ўсе.
Толькі скача дзяцел
На старой вярбе.
Бадае вярбіну,
Дзе трухлявы сук,
Ці вярба здарова:
Стуку-стуку-стук!
З галіны на галіну
Скача доктар той,
Сваёй моцнай дзюбай
Абстуквае кругом.
Каб была здаровай
І не мела ран,
Чарвей выцягае
Той чубаты пан!*


Капліччка з крынічкай у Завыках

# Пра рукатворныя і прыродныя абярэгі

З Беластока ў Страблю найзручней дабрацца поездам. А калі цягнікі з Беластока ў Страблю не ездзяць? Тады таксама поездам.

Злажу з цягніка на станцыі ў Лапах. Калі заязджаў туды на аўтобусе, здавалася, што ў Лапах лабірынт вуліц, па якім толькі шафёр ведае, як прабірацца. Але вось калі самому давялося завітаць на тыя вуліцы, то яны аказаліся не надта загадкавымі. У напрамку Суража дарога даволі простая, а з першага ўзгорка за Лапамі нават у непразрыстае надвор'е відаць ужо вежу суражскага касцёла.

У Суражы невялікая змена. Макет сярэдневяковага гарадзішча, які па цячэнні Нарвы быў злева перад мостам, цяпер апынуўся за мостам — у менш даступным месцы, а там, дзе макет быў раней, зараз пункт пракату байдарак, які так і называецца — „Байдарка".

Ад Суража падаюся на ўсход, у напрамку Завык. На ўзгорку зараз за горадам месца колішніх праваслаўных могілак. З супрацьлеглага напрамку, ад касцёла, што зараз на Замкавай гары, даходзіць з мегафонаў голас касцельнага кантара.

У Канцавізну не заязджаю, бо не маю ўпэўненасці ці адтуль у Завыкі будзе прыстойная дарога. Але калі з шашы адгаліноўваецца вузенькая асфальтоўка ў Завыкі-Ферму, спакушаюся...

На гмінным партале Марта Сокул так піша пра гэтую мясцовасць: „**Pierwsza wzmianka o wsi Zawyki Ferma pochodzi z 1558 roku. Wcześnie znajdował się tam folwark i siedziba starosty suraskiego. Z pewnością nie rezydowali tu wszyscy dostojnicy, pełniący funkcję starosty. W XVII wieku w dworze mieszkali zwykle ich zastępcy-podstarostowie. Starosta wraz z rodziną mieszkał w drewnianym dworze, położonym nad rozlewiskami Narwi. W otaczających dwór dwóch oficynach mieszkała służba i obsługa dworu, rozlokowane w pobliżu zabudowania gospodarcze, stawy i ogrody zapewniały starostom wygodne życie. Współcześnie po założeniu dworskim nie pozostał niestety żaden ślad. W czasach zaboru pruskiego i rosyjskiego w folwarku mieszkali urzędnicy państwowi. Obecny kształt wieś zawdzięcza prawdopodobnie reformie uwłaszczeniowej z 1864 roku. Ponad stuletni drewniany krzyż morowy (tzw. karawaka), znajdujący się na wschodnim krańcu Zawyk Fermy, jest świadectwem licznych epidemii, które trapiły mieszkańców wsi i całego regionu w minionych stuleciach**".

Згаданы крыж сапраўды вельмі стары; па ўсім відаць, што ён ужо некалькі разоў падгніваў і людзі, адкінуўшы гнілое, укопвалі яго зноў. Насупраць гэтага засцерагальнага крыжа значна навейшы праваслаўны крыж, пад якім надпіс „Сей крест сооружен православными жителями деревни" і дата 28 мая 2000 года. Складана мне здагадацца, з якой нагоды была абрана такая дата. У праваслаўным календары ў той дзень адзначаюцца Пахом, Ісай і Дзмітры. Беларускі народны каляндар так характарызуе гэтую дату: „На Пахома амаль усюды дазвалялася ўсё рабіць, але паколькі ён лічыўся галоўным чынам агародным святам, то абавязкова стараліся пасадзіць агуркі: «Пасееш агуркі, калі Пахом — будзеш хадзіць з мяхом», г. зн. збярэш шмат агуркоў на агародзе"...

А цяпер у даўніну, пра стары той крыж, які на Усходзе называюць патрыяршым, а на Захадзе латарынгскім, пры чым патрыяршы крыж можа яшчэ мець трэцюю, перакошаную перакладзіну знізу; апошні часта сімвалізуе Праваслаўную царкву і распаўсюджаны пераважна на ўсходзе Еўропы, калі латарынгскі — на захадзе. Шасціканцовы крыж з'явіўся першапачаткова на Усходзе і верагодна першыя славянскія місіянеры ад Кірыла і Мяфодзія з'явіліся з ім у Нітранскім княстве, якое дало пачатак Вялікамараўскай дзяржаве. Дарэчы, шасціканцовы крыж прысутны ў гербе сённяшніх Венгрыі і Славакіі, у якой і Нітра. Гэта з поўдня, а вось на поўначы шасціканцовы крыж з'яўляецца ў гербе Ягелонаў і іх дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага — „Пагоні", дзе ён на шчыце вершніка. А ў Вільню крыж трапіў верагодна з Полацка; Вікіпедыя: „Крыж Еўфрасінні Полацкай — шэдэўр злотніцтва часоў Сярэднявечча, напрастольны крыж, выраблены ў г. Полацку для царквы Свята Спаса па заказе прападобнай ігумені Ефрасінні Полацкай майстрам Лазарам Богшам у 1161 годзе. Мае шасціканцовую форму, вышыня — 51,8 см. Згублены ў час Другой сусветнай вайны і да гэтага часу не знойдзены..." — „Пагоня" ў дзяржаўным гербе Літвы, у гербе Беластоцкага ваяводства, Беластока, Драгічына, Браньска, Седльцаў... А ў дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь была да Лукашэнкі...

І яшчэ адна вытрымка з Вікіпедыі: „**Karawaka, krzyż choleryczny, krzyż morowy — krzyż pochodzący z miasta Caravaca w Hiszpanii. W czasie trwania zaraz rozprzestrzenił się na wschód, bardzo popularny w Polsce pod koniec XVIII, w XIX i na początku XX wieku. Krzyż karawaka był też amuletem przeciw wielu nieszczęściom i chorobom, wypadkom i nagłym zgonom, klątwom, kradzieżom, burzom, piorunom czy bezsenności**". А ў Іспанію гэты крыж трапіў з Леванта...

Зараз за згаданым крыжам і сама вёска Завыкі. Распаложаныя побач ракі Нарвы Завыкі лічацца адным з найбольшых бусліных гняздовішчаў — у вёсцы налічваецца каля сарака гнёздаў гэтых спадарожнічаючых чалавеку птушак. Агульна прынята лічыць, што сабака з'яўляецца найбольш з жывёл чалавека разумеючым. Але буслы здаюцца ўвасабляць усю прыроду, якая з вясною вяртаецца да нас так жа, як і буслы. Яны кружаць у тым жыццёвым цыкле, які з гадавой перыядычнасцю замірае і ўваскрасае; яны кружаць вакол зямелькі, так як і ў традыцыйных уяўленнях жыццядайнае сонейка. Таму яны ў людзей у асаблівай пашане. Вось старая клуня, з якой аблезла страха, але яе нельга раскідаць, бо на ёй буслінае гняздо...

Іна Швед з Берасцейскага ўніверсітэта: „Бусел з'яўляецца адным з самых частотных вобразаў арніталагічнага кода беларускай традыцыйнай духоўнай культуры. У народнай трактоўцы бусел — святая, божая, добрая, найлепшая, а таму вельмі шанаваная птушка. Спецыфіка паводзінаў і знешняга выгляду буслоў часта выводзіцца з роднасці з чалавекам, „адчалавечага" паходжання. Метамарфоза чалавека ў птушку выступае формай кары чалавека за асабісты грэх. У Ваўкавыскім павеце бусел — гэта паводле паходжання чалавек, які лякаў Бога з-пад моста, у Полацкім павеце — гаспадар, які карміў работнікаў жабамі. У Гродзенскай губерні буслы — душы людзей, якія пакутуюць за свае грахі. Так, лічаць, што буслы маюць душу, клякочуць да неба малітвы пра пакаянне грэшніка, належаць да хрысціянскай веры, жывуць каля людзей. Чырвоная дзюба бусла можа ўспрымацца як знак таго, што яму стала брыдка, калі Бог пакараў яго за непаслухмянства. Стаўшы птушкай, бусел селіцца побач з чалавекам, на стрэхах хат, ходзіць за земляробамі па полі, спрые людзям. Паўсюдна на Беларусі лічыцца, што жылое гняздо бусла на даху дома з'яўляецца шчаслівай прыкметай. Калі ж буслы не вярнуліся на весну ў сваё гняздо, то на той сядзібе неўзабаве нехта памрэ. Нездарма вяскоўцы гняздо для бусла ўладкоўваюць на хаце, гумне, дрэве, слупе ля жытла. За гэта бусел магічным чынам засцерагаў жыллё ад пажару або папярэджваў, што жытло спаліць пярун. Пры першай сустрэчы з буслам, як і пры першым каванні зязюлі, рэкамендуецца мець пры сабе грошы; грошы ў кішэні ў гэтым выпадку абяцаюць багацце, ключы — вялікі дастатак, а пустая кішэня — страту. Паводле народных уяўленняў, бусел з'яўляецца медыятарам паміж чалавечым і нечалавечым светам і падацелем не толькі ўраджаю, але і дзяцей, якія ўспрымаюцца як падарунак чалавеку з боку прыродна-касмічнага свету...".

Шчоўкнуў я здымак вываднога праваслаўнага крыжа, што на канцы Завык з боку Дакторцаў, Чараўкоў, прыходскіх Кажан. Падышоў да мяне пісьманосец, які сачыў за мною ўжо з Завык-Фермы. Расказаў ён мне крыху пра капліцу, што на канцы вёскі ды пра капліччку на крыніцы, пра якую я дагэтуль не ведаў, хаця ў Завыках неаднаразова бываў. Падаўся я ў напрамку лугоў за капліцай разгледзецца за тою крыніцай і капліччкай, але не там яна аказалася, а з боку вёскі, нябачная ад увахода на цвінтар. Між абодвума храмамі крыжовая дарога, пракладзеная цягам апошніх гадоў...

Гмінны партал пра вёску: „**W 1577 roku posiadała młyn z pięcioma kołami oraz trzy karczmy. Jej mieszkańcami w większości byli chłopi ruskiego pochodzenia, którzy po 1596 roku przeszli na wyznanie unickie, ale obok nich żyli także katolicy uczęszczający do kościoła w Surażu. W poł. XVIII wieku Ignacy Karniewski, generał wojsk koronnych, ufundował na potrzeby unitów istniejącą do dziś drewnianą kaplicę pw. Imienia Najświętszej Marii Panny. Jest ona jednym z najcenniejszych zabytków gminy. Obok niej znajduje się kapliczka z cudownym źródełkiem, pochodząca z tego samego stulecia. W XIX wieku kaplica została przejęta przez Cerkiew prawosławną**". Гэта сталася пасля Студзеньскага паўстання. А паўстагоддзем пазней праваслаўныя жыхары Завык выехалі ў бежанства, пакідаючы капліцы пустуючымі, чым пакарысталіся каталіцкія жыхары вёскі: „**Kościółek nasz dawny we wsi Zawyki, zabrany przez Rosjan, zamieniony został na cerkiew prawosławną, która w obecnym czasie dla braku prawosławnych pozostaje próżną i bezcelową. Ponieważ w tej wsi jest 40ro dzieci Polaków katolików, którzy dla braku odpowiedniego ubrania i wieku nie mają możności chodzenia do parafialnego kościoła w Surażu i z tego powodu pozostają okrągły rok bez Mszy Świętej i nauk głoszonych w kościele. My zaś rodzice pracując całe tygodnie na wyżywienie swych rodzin jesteśmy wyczerpani z sił i też w niedziele dla braku bliskości kościoła jesteśmy zmuszeni opuszczać takowy**", — пісалі ў 1918 годзе, пераймаючы апусцелыя храмы ў сваё валоданне...

У Страблю заглянуў я дзеля цікавасці, як прагрэсуе там праца па абнаўленні чыгуначнай лініі; праца там у той час была ў разгары, зніmaліся старыя рэйкі, аставалася старая падсыпка. За мостам, паміж Лешняй і Чараўкамі побач лініі чакалі новыя шпалы, тое самае і каля прыпынку Галоўкі-Вялікія...

А вось паміж Трычоўкай, Злотнікамі і Растолтамі трапіў я на загадкавы могільнік, рассечаны лясной дарогай. З аднаго боку два лацінскія крыжы, з другога — два візантыйскія. На адным з апошніх надпіс: „Здесь похоронены неизвестные жители деревни Золотники; мир праху их". Цяперашнія ўраджэнцы Злотнік не ведаюць, хто там пахаваны і калі. А вось у даўніх дакументах зафіксавана, што ў Злотніках у 1624 годзе ад пошасці вымерла трынаццаць сем'яў... Невыпадкова нашы людзі так шанавалі абярэгі...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**


Крыж каравака ў Завыках-Ферме



На цвінтары ў Завыках

# Засталіся адно ўспаміны (4)

Наша брыгада «BR-9», як і восем іншых кінаперасовак, карысталася аўтамабілем маркі «Люблін» — машынай-усяходам з перадачай на чатыры колы. ВПК атрымала аўтамабілі ад войска, дзе выкарыстоўваліся ў якасці мабільных радыёстанцый. Унутры знаходзіліся тры спальныя месцы і камінак для абагравання. Можна было згатаваць абед на пераносным нафтавым прымусе. Быў і столік на канцылярскія прыборы. У чатырох заглыбленнях усярэдзіне трымалі мы пасцель, харчовыя прадукты, затым быў асобны адсек на агрэгат. Над столікам знаходзілася лямпачка для асвятлення з акумулятара. З боку было маленькае акенца з прызначэннем для праекцыі кінасеансаў з аўтамабіля. Гэта быў наш домік на колах.

Першую ноч у якасці кіношніка правёў я ў Іванках-Рагозах у кампаніі кінамеханіка Аліка Чарняніна, савецкага рэпатрыянта і шафёра Валодзі Скепкі родам з Барка, што непадалёк Хітрай на Гайнаўшчыне. Абодва жанатыя. Алік абсталяваўся ў Гайнаўцы. Пабудаваў разам з братам домік па вуліцы Пралетарыяцкай. Жыў з прыстарэлай матуляй Барбарай. Як пазней гаварыў, лічыўся палякам, таму вярнуўся на Радзіму. Ажаніўся з маладой прыгажуняй з Вышак. Валодзя Скепка ажаніўся з Зосяй Дубінскай, якая пражывала з бацькамі на калёніі ў Саках. Абодва пажаніліся «ў тэрэне», будучы кіношнікамі. Затым задумалі і мяне ажаніць. Паколькі я лічыўся навічком, дык вымушаны быў прыставаць на іхнія звычкі.



■ Курашаўскія запявалы. 1965 год. Фота Уладзіміра Сідарука

Тэрыторыя дзеяння брыгады «BR-9» была даволі разлеглая. Стан дарог быў ненайлепшы. У асноўным прыходзілася рухацца бакавымі ўхабістымі бездарожжамі, часам ненайлепшай якасці гравійкамі. Найгорш было вясною, восенню і ў зімовы час. У першым выпадку праблемай было балоцістае бездарожжа, зімою — нерасчышчаныя дарогі, снежныя сумёты. Але наш усяход па меры магчымасці спраўляўся з гэтымі праблемамі.

З Іванак-Рагозаў падаліся мы праз Нарву, Тыневічы-Вялікія і Тыневічы-Малыя ў Камень.Тыпова сялянская мясціна з драўлянымі забудовамі. З калёніяй налічвала больш за сорак дамоў. Вясковая крама (у прыватнай кватэры), чатырохкласная школа. Настаўнічала Тамара Садоўская. Прыезд кінаперасоўкі ў вёску для жыхароў лічыўся святочным днём. Асабліва дзеткі цешыліся нашаму прыезду, паколькі сеансы арганізаваліся ў час урокаў. Заўчасна рыхтавалі грошыкі — па 2 зл. — на білет. Аб тэрміне прыезду кіраўнік кінаперасоўкі заўчасна паведамляў школу. Пасылаў паштовую картку, у якой інфармаваў аб загалоўках кінакарцін для школьнікаў і дарослых, таксама аб тэрміне вячэрніх сеансаў. Школьнікі былі для кіношнікаў жывой рэкламай. Зразу ж па ўсёй вёсцы распавядалі аб прыездзе кіно. Але не толькі. Былі яны таксама пастаўшчыкамі бульбы, гароднiны і фруктаў. Хапіла сказаць малечам, што патрабуем бульбы, яек ці малака, а тыя неадкладна скакалі дамоў і прыносілі патрэбныя прадукты, а мы адплачваліся ім бясплатным уваходам на кінасеанс. Пасля прыезду ў Камень я падаўся ў канцылярыю ды па размове з настаўніцай рашылі арганізаваць школьнікам ранішнік. Дзеткі памагалі зносіць у залу апаратуру. Старэйшыя хлопцы завешвалі пледамі вокны. На ранішнія кінасеансы прызначаліся казкі і мастацкія фільмы, дазволены дзеткам ва ўзросце ад сямі да дванаццаці гадоў. Увечары арганізавалі мы сеансы для дарослых.

4 лістапада ў Курашаве адзначаецца дзень Казанскай іконы Божай Маці. У нашым маршруце гэтая вёска прапісана была на 5 лістапада. Забраўшы свае рэчы і праштампаваўшы камандзіровачныя бланкі ў школе, збіраемся ў дарогу. Трапляюцца спадарожнікі. Трох мясцовых кавалераў (з роварамі) хочуць пад'ехаць у Курашава на забаву. Паколькі залягла цемра, а дарога была балоцістая, дык папрасілі іх падвезці. Пагрузілі мы веласіпеды ў машыну і ў вясёлай кампаніі адправіліся на «адпустовыя» святкаванні.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

## http://zbsunion.by

Беларускія студэнты ў асноўнай сваёй масе кантынгент даволі канфармісцкі і апалітычны. З большага іх не надта цікавіць палітыка ўнутры краіны, свае ўласныя правы яны не імкнуцца адстойваць, праяў салідарнасці з тымі маладзёнамі, якіх незаконна праследуюць улады, амаль няма. Нягледзячы на такое сумнае становішча, сярод беларускіх студэнтаў усё ж такі ёсць тыя, якія адчуваюць сваю адказнасць за Беларушчыну, а таксама ставяць на мэту абараняць правы вучнёўскай моладзі. Прыкладам гэтага з'яўляецца Задзіночанне беларускіх студэнтаў, сайт якога месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://zbsunion.by**.

Віртуальнае прадстаўніцтва студэнцкага аб'яднання пабудавана згодна з сучаснымі тэндэнцыямі ў вэб-дызайне. Там няма вертыкальнага дзялення на дзве ці тры часткі. Каб азнаёміцца са зместам, неабходна энергічна круціць кола камп'ютарнай мышкі, бо ўсе матэрыялы размешчаны гарызантальна, і вышыні манітора не хапае для цалкавітага адлюстравання. Выйсці на рубрыкі знаходзяцца толькі ўверсе цэлага выяўлення.

„Задзіночанне беларускіх студэнтаў з'яўляецца старэйшай моладзевай арганізацыяй краіны. ЗБС — гэта першы і адзіны нацыянальны студэнцкі саюз, прадстаўнік беларускіх студэнтаў у Еўропе, аб'яднанне са шматлікімі міжнароднымі кантактамі і выбітнай гісторыяй!" — сцвярджаецца на галоўнай старонцы сайта. Там жа даецца інфармацыя пра мэту існавання арганізацыі. „Наша місія — аб'яднанне беларускіх студэнтаў дзеля абароны сваіх правоў і інтарэсаў, дзеля павышэння якасці вышэйшай адукацыі, гэта барацьба за акадэмічныя свабоды і прасоўванне прынцыпаў Еўрапейскай сістэмы адукацыі, а таксама ўздым нацыянальнай самасвядомасці праз папулярызацыю беларускай мовы і культуры. З 2001 года ЗБС было незарэгістраваным моладзевым аб'яднаннем, але ў 2016 мы нарэшце атрымалі рэгістрацыю як асветніцкая ўстанова «Філаматы». Таму далучыцца да нас ужо можна афіцыйна!" — радасна паведамляецца на сайце. Праўда, там не пішацца, чаму ЗБС не было зарэгістравана больш за паўтара дзясятка гадоў, а потым зарэгістравалася як нейкая ўстанова. Справа ў тым, што грамадскія арганізацыі такога кшталту практычна немагчыма зарэгістраваць у Беларусі. Гэтым самым улады не даюць ім магчымасці прадстаўляць хоць які зрэз грамадства, у тым ліку ў стасунках з замежнымі партнёрамі. Адукацыйная ўстанова — гэта ўжо іншая форма, якая фармальна не з'яўляецца добраахвотным грамадскім аб'яднаннем. ЗБСаўцам варта было б пра гэта напісаць і пазначыць, што, нягледзячы на перашкоды з боку ўлад, яны ўсё ж імкнуцца да ажыццяўлення тых мэт, якія ставілі перад сабой з часоў незарэгістраванага існавання. Прыкладам такога працягу з'яўляецца жаданне адрадзіць выданне газеты „Студэнцкая думка", пра што таксама распавядаецца на галоўнай старонцы. „Філаматы" таксама заклікаюць стаць журналістам гэтага выдання.

На галоўнай старонцы месціцца і навінныя паведамленні. Прычым яны тычацца не толькі Беларусі, але і іншых краін, дзе, на думку ўладальнікаў сайта, адбываецца нешта цікавае. Пра тое ж, чым займаюцца ЗБСаўцы-„Філаматы" зараз, можна даведацца, зазірнуўшы на старонку „Праекты".

Жадаючыя дзейсна дапамагчы студэнцкаму руху могуць увайсці ў склад „Філаматаў", выканаўшы некалькі ўмоў, пра якія ідзе гаворка на старонцы „Далучыцца".

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з Календара

З кагорты «Маладняка»

## 115 гадоў з дня нараджэння Язэпа Пушчы

Беларускі паэт, крытык, перакладчык Язэп Пушча (сапраўднае прозвішча Іосіф Плашчынскі) нарадзіўся 20 траўня 1902 г. у вёсцы Каралішчавічы Мінскага павета (цяпер Мінскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і. Бацькі Павел і Антаніна Плашчынскія былі непісьменнымі, працавалі на гаспадарцы і выхоўвалі шасцёра дзяцей. З гэтай сям'і выйшаў таксама літаратар Ізідар Плашчынскі (Гуткоўскі), які вучыўся ў БДУ, пазней эміграваў і памёр у ЗША ў старасці.

Язэп быў пятым дзіцём у сям'і, рана спазнаў цяжкую працу. У 1910-1913 гг. вучыўся ў Каралішчавіцкім народным вучылішчы, а з 1918 г. да жніўня 1921 г. — у Мінскім рэальным вучылішчы. У 1918 г. прачытаў першую беларускую кнігу — „Шляхам жыцця" Янкі Купалы. Наведваў курсы беларусазнаўства Наркамасветы БССР, там слухаў лекцыі Купалы, Коласа, Бядулі. У 1920 г. пазнаёміўся з Міхасём Чаротам, сяброўствам з якім даражыў усё жыццё. Цягам 1921-1926 гг. працаваў настаўнікам. У 1923 г. быў адным з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання „Маладняк", пазней — „Узвышша".

У 1926 г. працаваў у Інбелкульце. У 1925-1927 гг. вучыўся на педагагічным факультэце БДУ. Увосень 1927 г. перавёўся ў Ленінградскі ўніверсітэт. На чацвёртым курсе пакінуў там вучобу, вярнуўся ў Мінск. У 1929-1930 гг. працаваў стыль-рэдактарам у Белдзяржвыдавецтве. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей.

Як пісьменнік Язэп Пушча дэбютаваў апавяданнем у 1922 г. пад псеўданімам Лясун. Цягам 1925-1930 гг. выдаў некалькі паэтычных кніг. Вядомасць мелі яго „Лісты да сабакі". Паэзія Пушчы апявала новае савецкае жыццё, раскрывала радасны стан разнявоненага працаўніка — часта праз ранішні, вясновы пейзаж. Ёй уласцівыя глыбокі лірызм, танальнасць светлай спаведзі-разважання, выкарыстанне сродкаў народнай песні. Да высылкі выйшлі зборнікі вершаў паэта „Раніца рыкае", „Vita", „Дні вясны", „Песні на руінах", а таксама паэмы „Песня вайны" і „Цень Консула" (пачатковая назва „Песня акупацыі"), прасякнутыя ўражаннямі пра Першую сусветную вайну, а таксама паэма „Крывавы плакат". Была падрыхтавана да выдання кніга „Мой маніфест" (схаваная ў вуллі, а затым, пасля арышту аўтара, спаленая яго сястрой Лёдзяй). Быў падрыхтаваны да друку, але не выйшаў зборнік лірыкі „Грэшная кніга". У канцы 1920-х гг. ускладніліся светапоглядныя пошукі паэта, у некаторых яго творах прагучалі песімістычныя ноты.

Арыштаваны 25 ліпеня 1930 г. па справе „Саюза вызвалення Беларусі". У 1931 г. НКВД яго як „члена контррэвалюцыйнай арганізацыі" і за „антысавецкую агітацыю" асудзіў да 5 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбываў у Чэбаксарах, Шадрынску. Вызвалены 24 ліпеня 1935 года. У 1937-1941 гг. жыў у Мурамскім раёне Уладзімірскай вобласці, настаўнічаў. На чужыне пісаў мала. У гады вайны на фронце. Пасля зноў у Мурамскім раёне. Рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 30 студзеня 1956 г. Вярнуўся з сям'ёй у Беларусь у 1958 годзе. Выпусціў з друку вершаваную казку „На Бабрыцы", кнігу „Вершы і паэмы" і зборнік „Пачатак легенды". На беларускую мову пераклаў аповесць Аляксея Талстога „Дзяцінства Мікіты". Асобныя вершы паэта пакладзены на музыку і сталі песнямі. Для творау пасляваеннага часу характэрна ўзбагачэнне ўтрымання, пашырэнне паэтычнага далягляду.

Да апошніх дзён жыў у Мінску. Памёр Язэп Пушча 14 верасня 1964 года. Пахаваны ў Каралішчавічах.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

PROLOG · III dni kultury i piśmiennictwa słowiańskiego ·

500-lecie drukarstwa białoruskiego i wschodniosłowiańskiego

Bielsk Podlaski 19-26 maja 2017 r.

500 гадоў беларускага і ўсходнеславянскага друкарства

ПРОЛОГ · дни культуры и письменности славянской ·

19 maja – PIĄTEK
Bielski Dom Kultury, ul. 3-go Maja 2
FOLK-ROCK OPERA (MUSICAL) „WSESŁAW CZARODZIEJ”

20 maja – SOBOTA
PARK KRÓLOWEJ HELENY – amfiteatr miejski
14.00–17.00
KIERMASZ KSIĄŻKI
KOROWODY I KONCERT ZESPOŁÓW

21 maja – NIEDZIELA
Cerkiew Opieki Matki Bożej (Pokrowska)
LITURGIA ŚWIĘTA

21 maja – NIEDZIELA
PARK KRÓLOWEJ HELENY – amfiteatr miejski
KIERMASZ KSIĄŻKI
KONCERT ZESPOŁÓW

22 maja – PONIEDZIAŁEK
Miejska Biblioteka Publiczna
MIĘDZYNARODOWA KONFERENCJA INTERDYSCYPLINARNA
Bielski Dom Kultury

23 maja – WTOREK
Miejska Biblioteka Publiczna
MIĘDZYNARODOWA KONFERENCJA INTERDYSCYPLINARNA
Cerkiew Opieki Matki Bożej (Pokrowska)
CAŁONOCNE CZUWANIE

24 maja – ŚRODA
Cerkiew Opieki Matki Bożej (Pokrowska)
LITURGIA ŚWIĘTA

25 maja – CZWARTEK
Bielski Dom Kultury
Miejska Biblioteka Publiczna w Bielsku Podlaskim

26 maja – PIĄTEK
Bielski Dom Kultury

# Дэмаграфія Сямятыцкай гміны

Зараз у Сямятыцкай гміне ў 46 вялікіх і малых мясцовасцях пражывае 6 196 чалавек. Гэта прыгожы кут на правым беразе Буга. Аб тым, што даўным-даўно ён быў населены сведчаць курганы ў Цэцэлях і ў Асмолі. Гміна займае плошчу ў 227 квадратных кіламетраў. Сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 71 % плошчы гміны і лясы — 22 %. Найбольш лясоў у паўночнай і ўсходняй частцы гміны. Шчыльнасць насельніцтва 27 асоб на квадратны кіламетр. Суседнія гміны: Драгічынская, Дзядковіцкая, Гродзіская, Мельніцкая, Нурэцкая, Плятэраўская і Сарнацкая. Яе партнёрскай гмінай з'яўляецца Gransee ў Германіі.

У Сямятыцкай гміне на 100 мужчын прыпадае 98 жанчын. Ва ўзроставай групе 85 і больш гадоў жанчын у тры з паловай разоў больш чымсьці мужчын.

Найбольшыя вёскі гэта: Чартаеў — 712 жыхароў, Сямятычы-Станцыя — 324, Слохі-Аннапольскія — 322, Бацікі-Бліжэйшыя — 292, Анусін — 233, Бацікі-Сярэднія — 232, Баратынец-Рускі — 228, Рогаўка — 227, Раманаўка — 224, Толвін — 193, Каянка — 185, Крупіцы — 163, Турна-Вялікая — 154 і Агароднікі — 151.

Да сярэдніх вёсак належаць: Клюкова і Цэцэлі — абедзве яны па 149 жыхароў, Бацікі-Далейшыя — 147, Вулька-Надбужная — 123, Верцэнь-Вялікі — 110, Клопоты-Патры — 105, Сківы-Вялікія — 104, Сківы-Малыя — 103, Клопоты-Станіславы — 102, Клопоты-Буйны — 100, Кулыгі — 98, Выромейкі — 96, Шэршані — 95, Клекатова — 88, Баратынец-Ляцкі — 87, Клопоты-Банькі — 84, Кожэнёўка-Вялікая— 77, Мачыдлы — 75 і Залесе — 62.

Найменшыя пасяленні гэта: Вулька-Бішэўская — 13 жыхароў, Красэвіцы-Чэрэпы — 15 ды Ляскоўшчына — 30. Адыйшлі ў нябыт Галасоўка, Грыцкі і Кадлуб.

❖ **Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Патоп у Беластоку

7 мая 2017 года над Падляшскім ваяводствам пракаціліся навальніцы, у тым ліку з градам. Найбольшая інтэнсіўнасць з'яў адчулася ў цэнтральнай частцы ваяводства (у зоне халоднага атмасфернага фронту) і дождж ліў там у некаторых месцах моцным токам, лакальна праліўна, а ў раёне Беластока была сапраўдная навальніца. Тэлеметрычныя станцыі налічылі, што найбольшая частка дажджу ўпала ў сталіцы Падляшша на працягу дзвюх чарговых гадзін: 18 мм і 37 мм.

Пагадзінныя ападкі на метэаралагічнай станцыі ў Беластоку па вул. Цыялкоўскага фіксаваліся так: гадз. 17-18 — 17,7 мм, 18-19 — 37,2 мм, 19-20 — 10,6 мм, 20-21 — 5,2 мм, 21-22 — 1,7 мм, 22-23 — 3,8 мм, 23-24 — 5,6 мм; 8 мая: гадз. 00-01 — 3,0 мм, 01-02 — 0,9 мм.

Сума ападкаў, запісаная ад 9 гадзіны 7 мая да 8 гадзіны 8 мая ў Беластоку склала 87,7 мм, у Супраслі — 59,1 мм, у Навасёлках — 36,4 мм, у Тыкоціне — 31,7 мм, у Фастах — 25,0 мм, у Храболах — 20,7 мм.

З архіўных даных вынікае, што агульная сутачная колькасць ападкаў у Беластоку (87,7 мм) была самая высокая для мая ад 1966 г. Раней найбольшая колькасць ападкаў фіксавалася ў маі 2003 г. — 48,7 мм.

Максімальная сутачная сума ападкаў была зафіксавана ў Беластоку 26 чэрвеня 1985 г. і склала 90,6 мм.

Падчас ліўню 28 ліпеня 2016 г., якія нанёс многа шкоды, выпала 45 мм ападкаў.

Мяркуючы, што паверхня Беластока налічвае 100 кв. км, 7-8 мая на горад упала каля 880 000 000 000 літраў вады, што складае 880 млн. кубаметраў — каля 4 400 000 алімпійскіх басейнаў.

❖ **(лук)**

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. даўгахвосты цэнтральнаамерыканскі папугай = 14 _ 13 _ 29 _;
2. напрыклад, марафон = 11 _ 15 _ 21 _;
3. велізарная дзяржава, у якой... кіт = 28 _ 12 _ 18 _ 19 _ 3 _;
4. забруджанне, месца іншай чым фон афарбоўкі = 8 _ 4 _ 5 _ 1 _ 2 _;
5. Кандрат, расійскі паэт-дзекабрыст (1795-1826) = 9 _ 10 _ 16 _ 17 _ 30 _ 20 _;
6. горад апошніх зімовых алімпійскіх гульняў = 23 _ 22 _ 26 _ 7 _;
7. рака з Украіны ў Сербію = 24 _ 25 _ 6 _ 27 _.

**(ш)**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | | 16 | 17 | 18 | 19 |
| | | 20 | | | | | |
| | | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 18 нумара**

Вадарод, дзюна, паляк, Еўропа, зяць, невук, урок, арыфметыка, гонар, лыч, стог, будзень, еўра, надзея, Тарле, раджа, май, выснова.

Рашэнне: **Зязюля пачне кукаваць на голы лес, то год будзе неўраджайны**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэмянюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 21.05 — 27.05

**(22.03. — 20.04.)** Шчасце табе спрыяе. Неўзабаве тыя, за кім ты гнаўся, будуць гнацца за табою. Будзеш прасоўвацца на працы і ў кампаніі. Утрымаеш здабытае і не пусты кашалёк. Але 21.05. не будзь скваплівы! 21-22.05. не давай партнёру нагоды для трывогі. Асабліва 24-27.05. могуць затрэсціся фундаменты ў пары. Пільнуйся таксама, каб 24-27.05. цябе не абакралі, не абманулі, пераглядвай кішэні ў адзенні перад мыццём.

**(21.04. — 21.05.)** Магчымасць заробку, але з рызыкай. Можа хутчэй застукаць тваё сэрца, асабліва калі ты з другой дэкады. Хтосьці 24-27.05. можа захацець намуціць у вашай пары, трэба будзе рашуча адказаць, што няма на гэта шанцаў. Вельмі пільнуйся 24-27.05. пры крэдытах, пры каштоўных спакусах.

**(22.05. — 22.06.)** Рэалізуй свае планы. Пакажашся на фоне іншых. Не заблытаешся ў дэталях. У пачуццях пакажы ініцыятыву. Сям'я і сябры могуць на цябе разлічваць. Энергіі шмат, выкарыстаеш яе, каб пабегаць па крамах і купіць сабе штосьці шыкоўнае. Не будзе хапаць часу, каб добра паесці; гатуй дома, не псуй страўніка фастфудамі. Шмаруй твар крэмам з высокім фільтрам. З 21.05. (да 31.05.) будзеш прымушаны да нейкіх абмежаванняў.

**(23.06. — 23.07.)** 21.05. старайся не спрачацца. Зоркі моцна намуцяць у тваёй пары і могуць канфліктаваць з шэфам. Але нервовыя сітуацыі будуць палагоджаны. 22.05. можа аказацца, што твае спадзяванні былі моцна навырост. 24-27.05. пераканаешся, што даражэйшае не мусіць значыць лепшае (таксама пры дарагіх планах на канікулы). З 27.05. будуць шанцы на добрыя размовы і дыялог. На працы прымяняй прынцып абмежаванага даверу.

**(24.07. — 23.08.)** Змагайся за кожную справу, якую лічыш слушнай; добра ў гэтым будзеш разбірацца. Будзеш мець вельмі моцных саюзнікаў. 21.05. папраў сваю памылку. У пачуццях — надалей вясна! На працы ўдачы, новыя праекты чакаюць на таго хто надасць ім канкрэтны кшталт. Не турбуйся будучыняй, цешся тым, што маеш.

**(24.08. — 23.09.)** Пакажаш свае арганізацыйныя ўмеласці. У пары гайданка настрояў, часам вельмі востра, але ўсё можна ўратаваць. Сярод новых знаёмых будзе твая братняя душа, хаця можа цяжка будзе вылучыць яе з тлуму. На працы будзь больш дыпламатычным. Не сядай цяпер на дыету. З 26.05. вельмі пільнуйся правіл і законаў. З 27.05. беспамылкова адрозніш праўду ад маны.

**(24.09. — 23.10.)** Урэшце дыхнеш на поўныя грудзі. Някепска на рахунку, добрая матываоўка, узровень энергіі. Не звяртай увагі на драбязу ў пачуццях, але 24-27.05. не давярай усім, хто да цябе хоча наблізіцца. Нават з лагодная партнёра можа вылезці дзікі зайздроснік. На размовах пра працу выклічаш сімпатыю і добра запрэзентуешся. Але не рабі сабе крыклівай стылізацыі.

**(24.10. — 22.11.)** Высветліш спрэчныя пытанні з партнёрам і супрацоўнікамі. Адкрыйся на патрэбы партнёра. Ты цяпер не вельмі арыентаваны ў справах паміж тваімі сябрамі — усе ўсё будуць ведаць, а не ты. 21-23.05. могуць пагыбіцца існуючыя канфлікты. 24-27.05. можаш аказаць на кагосьці вельмі кепскае ўражанне. З 26.05 (да 30.05) чакае цябе сур'ёзная размова з кіраўніцтвам. Не дай сябе застрашыць, падрыхтуй аргументы.

**(23.11. — 22.12.)** Дасі рады праблемам. Схочаца пабуяніць, але будзь асцярожным. Памалу дасягнеш сваіх мэт. Будзеш аб'ектам моцных пачуццяў. Знаёмыя цябе задзівяць, на плюс і на мінус. Паміж 24 і 27.05. хтосьці цябе падвядзе, але не перамайся; на наступны раз будзеш ведаць, каб па ім многа не спадзявацца. Падзаробіш, зайграй таксама ў латарэю (найбольшыя шанцы ў Стральцоў з ІІ дэкады).

**(23.12. — 20.01.)** Праводзь важныя мерапрыемствы, афармляй важныя справы, вучыся новаму. Але з 26.05. глядзі, каб хапіла табе пасладоўнасці і цярплівасці; пераканаешся, што не заўжды маеш рацыю. Сонца ссылае табе малыя ўсмешкі лёсу. Цяжкім момантам нават для ўдалых пар будзе час 24-27.05., на вашай дарозе стануць непрыхільныя людзі; не стаў рубам «яны або я».

**(21.01. — 19.02.)** 21.05. не зрабі памылкі, якую цяжка будзе выправіць; можаш спадзявацца большага прыбытку. Шчаслівыя выпадкі, вострая інтуіцыя. Знайдзі час на адпачынак. У пары супольныя лады і рашэнні. На працы будзь ветлівым і слухай, бо хтосьці 24-27.05 можа спрабаваць адпомсціць. З 26.05. (да 30.05.) мусіш устаяць перад чыёйсьці ярай атакай.

**(20.02. — 21.03.)** Усё будзе ісці добра, а ты не мяшай уласнаму шчасцю. Будуць спрыяць людзі. Сам добра спазнаеш свае духоўныя патрэбы. Пакахай і зразумей самога сябе. Даведаешся, на каго можаш разлічваць. Адважна рэкамендуй свае погляды. Але на дарозе будзь асцярожным. З 27.05. добры час на наладжванне суполак.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (86)

Фота Улі Шубзды



■ Пачатак Прыпяці

У лясных Будніках, як нідзе ў свеце, спрацавала жаночая салідарнасць. Наша машына, як верны стары конь, заўпарцілася і не хацела зрушыць з месца. Нібыта жалезная скрыначка, а нешта разумела, прадчувала складанасці. Пасля, калі мы разам з Русланай дабіраліся па разрэйданых, балотных дарогах да возера Святога, мы былі ўдзячны таемным сілам, якія выручылі нас ад выкліку на мяжы самагубства. Гразь і паўметровыя каляіны на дарозе — надзённы клопат туземцаў.

Спачатку мы падаліся на Русланіным выслужаным «Фольксвагене» ва ўрочышча *Блізневське* — да крыніц Прыпяці, фармальнага пачатку палескай Амазонкі. Месца знаходзіцца кіламетр за вёскай. Туды вяла, калі судзіць па палескіх мерках, грунтоўная, палявая дарога. Закутак *Блізневське* ўяўляў сабой нудотны аблог, атулены лесам. Там-сям, сярод шэрай травіцы, віднелі зялёныя сцёблы дзікай дзіванны. За калгасных гадоў гэты адрэзак поля, нахабна выдзерты лесу, абсеялі прамысловай травой. Штучная сельскагаспадарчая культура не прыжылася, колішні, нашпігаваны штучнымі ўгнаеннямі поплаў зараз напамінаў хворае поле. Таксама пачатак Прыпяці здаваўся ніякім. Гэта быў просты роў паўтараметровай шырыні з вадой, прыцярушанай жабурыннем. Месца чуць-чуць ажыўлялі бярозкі, пасаджаныя па берагах канала. Нейкі закалот у ссохлым, адмераным пад лінейку ландшафце наклікаў шэра-зялёны астравок вербалозу, над якім кружылі два галодныя крумкачы.

— Відаць зноў штось там застрагла, — прашаптала Руслана.

— А што там? — спытала і я паўшэптам.

— Гэта такое праклятае месца, твань.

Сярод шэра-зялёнага вербалозу хавалася балотца. Яно ніколі не замярзае і ў ім безупынна топіцца звярына. Як пракладалі раку, то-бок капалі канал у тым месцы, дык столькі было касцей, як на нейкіх могілках. Найбольш патапілася аленяў і кабаноў.

Руслана прыгадала як раз у твань правалілася калгасная карова. Ад абеду да вечара выцягвалі яе трактарамі. Жывёла жудасна раўла, быццам з глыбі штосьці яе кусала, не адпускала на зямлю. Людзі дык увогуле баяцца глядзець на праклятую галу. Ніхто туды цвярозы і здаровы не пойдзе! Нават падвыпіўшыя рыбакі абмінаюць дрыгву шырокім колам. Бо ступіш не так і капцы, замарочыць, ачмурыць і засмокча на дно.

Крыважэрная дрыгва прытыкае да роўненькіх берагоў канала.

Нягледзячы на сваю чорную славу, яна ўсё ж прыбаўляе вытокам Прыпяці нейкую рамантыку. Чалавек з усёй кучай самай сучаснай тэхнікі далей у такіх месцах становіцца малым і бездапаможным. Са здрадлівым балотцам не змаглі справіцца нават савецкія арлы меліярацыі. Знюхаўшы небяспеку і патраты, яны кінулі твань прыродзе ды яшчэ абазвалі яе дурной аплявухай:

— Дык чорт з гэтым галам! Хай сабе страшыць як страшыла!

* * *

Руслана з моманту, калі падабрала нас на скрыжаванні ў Забужжы, адчувала сябе ў абавязку дапамагчы здзейсніць справу. Яна найлепш разумела, што чалавек звонку, як сто гадоў таму назад, у іх лясным закутку сам нічога не знойдзе. Прысутнасць шустрай туземкі падбівала ўпэўненасць на грузкіх, неабазначаных лясных дарогах. У падарожжа разам адправіўся сынок Андрэйка. Хлапец адзін ведаў дарогу да возера Святога. Яго сёстры, Вікторыя і Таня засталіся дамоў. Папраўдзе ў Русланы пяцёра дзяцей. Яна прыгарнула дзве сястрыны дачушкі, сіроткі. Інакш не магла зрабіць.

— Яны, бедныя, столькі перажылі, нацярпеліся!

Балючы ўспамін аб сястры ўсё шчымеў у грудзях у Русланы. Яна не ўмела змірыцца з яе заўчаснай, недарэчнай смерцю. Загінула ў дарожнай катастрофе з-за неразвагі і дурасці мужа, які, набуханы, палез за рулі. Ён быў настолькі п'яны, што нават не запамятаў моманту катастрофы. А зараз замест клапацціся аб лёсе дзяцей, з прыгоднай бабай гуляе... Бяда, адным словам. Ды што ты тут зробіш?

На Палессі ўсе жанчыны наракаюць на шлюбных мужыкоў, нават калі яны залатыя.

— Усе яны адным мірам памазаны! — адкажуць хорам і здорава зарагочуць.

Са шчасцем трэба абносіцца асцярожна, ціхенька. Раз скажаш лішняе слова, усё можа адмяніцца. Інакш, калі гора. Такі расказ кожны зразумее, выслухае, пацешыць. Няма ж такой хаты, каб усё было добра. У кожнага свая бяда, свае балячкі...

Фота Дыяны Нахіла



■ З Русланай і Андрэем ля вытокаў Прыпяці

Будніцкія жанчыны ездзяць падзарабіць у Польшчу. Таксама Руслана яшчэ сёння, пасля абеду, з'язджала на тры тыдні папрацаваць у цяпліцах пад Люблінам. Яе не палохала цяжкая фізічная праца, 16 гадзін у суткі. У дарогу вабіў прыстойны заробак і давераная кампанія жанчын.

— Я трапіла да добрага пана, — кажа Руслана. — Ён такі сумленны, да капейкі разлічыцца. І галоўнае, не крычыць, не гоніць да работы. Колькі зробіш, столькі заробіш...

Цягам чарговых хвілін, як у эпоху закаранелага феадалізму, мы з дзіўным зразуменнем выслухалі нараканні на польскіх паноў. Руслана расказала пра аднаго фермера, якія выганяў на поле да малін жанчын у халодны дождж, ды яшчэ іх брыдка лаяў. Ён не злітаваўся нават над цяжарнай маладзіцай, якая баялася выйсці на дождж і вецер. «Albo pracujesz, albo spier...», — сказаў ён. Яна плакала і абірала тыя маліны.

І вось калі ўрэшце трапіўся добры пан у Русланы, яна не хацела сарваць кантакту, згубіць заработак без лішніх нерваў і прыніжэння. Дзетак жа гадаваць трэба. Як усё пойдзе добра, за тры тыдні зробіць пяцьсот долараў, а гэта вялікія грошы ў Будніках.

Руслану клікала ў дарогу яшчэ цікавасць свету.

* * *

А зараз, Руслана ахвяравала свой цэнны час перад ад'ездам, каб задаволіць нашу рэпарцёрскую цікавасць. Звестка, што ля іх вёскі знаходзіцца возера Святое, проста электрызавала. Возера з такім назовам і падобнай легендай вандравала са мной гадамі па палескай глыбінцы. І нават, калі б яно рэальна не існавала тут ля крыніц Прыпяці, штось такое трэба было б мне прыдумаць.

Руслана спачатку не надта хацела ехаць у лясную гушчу. Яна аднак пабачыла, што я гатова ў кожны момант сысці з машыны і дабірацца да возера на нагах. Мясцовы, зычлівы чалавек не дазволіць на гэта. Ён ведае, якая там марока...

Да возера вяла дарога, ці хутчэй некалькі яе варыянтаў, стыхійна пракладзеных на сухіх абочынах цёмна-зялёнага лесу. Шлях быў зрыты коламі грузавікоў, якія запускаліся ў дзікія нетры пушчы па ссечаныя дубы і елкі. Пахла дзікай эксплуатацыяй. Стары лес, насычаны зялёным святлом, захоўваў першабытны характар і жыва напамінаў Белавежскую пушчу. Як не цікава, першыя пісьмовыя крыніцы датычаць палявання Ягайлы, які выправіўся сюды з дружынай запасіцца дзічынай перад Грунвальдам. Такая занатоўка ёсць і пра нашу Белавежскую пушчу. Магчыма, апошні аналаг парадніў з будніцкім лесам. Усё тут здавалася знаёмым, утульным ды адначасова жорстка параненым высечкай.

Русавалосая Руслана цудам перапраўлялася праз паўметровыя каляіны з чорным балотам, прымяняючы ўсе магчымыя акрабацыі і спрыт за рулём. Наш паход падбівала крутая музыка — па радыё грымеў украінскі гард-рок. Музыку вышукваў і падкручваў шустры Андрэйка, які адначасова паказваў дарогу. Якраз за рулём праявіўся характар ашчаднай на словы Русланы. Зараз яна напамінала бясстрашную варожку, якой нельга адмовіць або ў чымсьці пярэчыць. Скажаш не тое, дастанеш па мухаедах!

Калі мы пад'ехалі на месца, на хвалі радыё ўскочыў «BRUTTO» са сваімі «Воінамі свету». Гэта была чыстая магія, праз дрэвы прабівалася залатое люстра возера Святога. Ці можна прыдумаць яшчэ лепшы прывітальны салют?

Апошні адрэзак пратапталі мы гуськом па вузкай, тарфяной трапінцы. Здавалася, што ўся зямля калышацца пад нагамі. У Русланы быў насцярожаны, трывожны воблік.

* * *

Возера Святое напамінала іржава-залатое вока, якое глядзела знутры дрымучай, старажытнай гушчэчы. Колер вадзе прыдавала вадзяная расліннасць, прысохлая пасля першых восеньскіх замаразкаў. Возера поўнасцю належала дзікім лебедзям, якія на недаступных берагах заснавалі свае калоніі. Разам з маладымі яны налічвалі адборны, у паўсотню, грацыёзны статак. Андрэйка, які гэтае месца ведаў як сваю кішэнь, ускараскаўся на драўляную кладку і стаў клікаць-прызываць лебедзяў дзівоснымі гукамі:

— Gul-gul-gul-gul-gul-gul-gul-gul...

Літоўскі вокліч у закутку *Королёве* зноў наклікаў вобраз караля Ягайлы, які шэсцьсот гадоў таму паляваў тут на зуброў, тураў, мядзведзяў і аленяў. Лебедзь — па-літоўску gulbinis — ды слова надта падыходзілі да чароўнага выгляду возера. Яго прыгожасць аднак вабіла зманлівай абяцанкай. І зараз, калі Андрэйка лётаў па грузкіх берагах і прызываў лебедзяў, Руслана здзеравянела ад жаху. І катэгарычна забараніла набліжацца да вады.

— Хопіць глядзець на тую ваду — дадала суровым тонам, — пайшлі дамоў!

У возера Святога крыважэрная, змрочная слава. У ім безупынна топяцца мужыкі. І вось нядаўна загінуў чалавек з Буднік. Сядзеў сабе на беразе возера з вудай і лавіў шчупакоў. Нявядома калі згубіў раўнавагу і паляцеў у твань. Разам былі рыбакі, але яны не здолелі дапамагчы, выратаваць.

Падобных трагедый не спыніць. Рыбакі, нягледзячы на ахвяры, пруцца сюды нейкай сляпіцай. Нібыта вабяць іх шчупакі, якіх тут процьма...

— Ды чаму яно называецца Святое? — спыталі мы з недаверам.

— Бо раней на гэтым месцы стаяла царква, — пачала Руслана, — нашы людзі сюды прыходзілі маліцца. Аднойчы, у Чысты чацвер, ішлі ў царкву тры жанчыны. Яны ўжо наблізіліся да царквы, ды адна дзеўка спатыкнулася і перавярнулася. І па сваёй дурасці пракляла месца: «А каб ты правалілася пад зямлю!».

Ад яе слоў расступілася зямля і праглынула ўнутр будынак царквы. І вось на праклятым месцы зрабілася возера. Паляўнічыя і рыбакі, якія запускаюцца ў гэты закутак, часам чуюць тут плач і нейкія дзіўныя галасы....

Пасля, калі ўжо вярталіся трапінкай да машыны, ад боку возера пачуўся пранізлівы, шыпучы гул і крык змешаны з плёскам вады. Усё паказвала на тое, што спантанна зайгралі лебедзі, задаволеныя, што пакідаем іх у спакоі.

На панадворку ў Русланы ўсё вярнулася на месца. Наша мудрая «жалезная скрыначка», быццам нічога не здарылася, зрушыла з месца і пашыбавала па лясных выбоінах.

А ў душы і касцях усё звінела замова мудрай бабы Галі ад крыважэрнай, дакучлівай рожы:

Умовляю рожу
от біэлого тіэла.
од жовтой кості
от чырвоной крові
рожа рожышчэ
вітраная
водзяная
планітная
нэ ходы
білого тіла нэ рані
жовтой косты не трушчы
чырвоной крыві нэ нішчы
што б ты вышла од мойого вымовлення
як выходыт дым із коміна
Отца і Сына і Духа Святого, амін!

(працяг будзе)

**Ганна КАНДРАЦЮК**

**PS.** У падарожжы ў Буднікі мяне суправаджалі сяброўкі-журналісткі: рэд. Дыяна Нахіла і рэд. Уршуля Шубзда. Якраз дзякуючы ім можам паглядзець фатаграфіі ад крыніц Прыпяці.

ISSN 0546-1960